Kab usie byli adno... Bieraściejskaj unii 420 hadoŭ

Стар. 6

РУНЬ

Беларуская газэта ў Вільні

Francišak ALACHNOVIČ Jak ź mianie zrabili vučyciela...

Стар. 7

ISNN 1392-7671 № 78 Кастрычнік 2016 г.

# Сьвята беларускай песьні-2016

*Чую тваю жаўруковую музыку*
*Ў скошаных травах мурожных,*
*Мова! Як сонца маё*
*беларускае,*
*Ты свецішся словам кожным!*

**Гэтымі радкамі беларускай паэткі Яўгеніі Янішчыц сёлета напачатку кастрычніка ў рамках Дзён беларускай культуры ў Літве распачыналася Сьвята беларускай песьні. Галоўную ў календары літоўскіх беларусаў музычную імпрэзу пры падтрымцы беларускай амбасады і Дэпартамэнту нацыянальных мяншыняў пры Урадзе Літоўскай Рэспублікі ладзіла Згуртаваньне беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве.**



Заля віленскага Дому польскай культуры, пад дахам якога сёньня сабраліся аматары беларускіх сьпеваў, ледзьве зьмяшчала ўсіх ахвотных хоць на гадзіну стаць часткаю штогадовага сьпеўнага мерапрыемства. Паводле ўжо даўняй завядзёнкі Сьвята беларускай песьні штогод мяняе сваю прапіску: кожнай восеньню яно адбываецца ў тым горадзе, дзе мясцовая беларуская суполка сьвяткуе свой юбілей.

— Унікальнасьць Сьвята беларускай песьні ў тым, што яно кожны год мяняе горад сваёй прапіскі, якімі ўжо былі Друскенікі й Вісагінас, Салечнікі й Сьвянцяны, Клайпеда й Шаўлі, Панявежыс і Вільня, – падкрэсьліў вядоўца імпрэзы Сяргей Шабадалаў. – Важна адзначыць, што Вільня сустракае гасьцей Сьвята беларускай песьні ўжо ў шосты раз!

## Сьвята, якое аб'ядноўвае

Сёлета круглую дату адзначала само Згуртаваньне: аб'яднаньне беларускіх арганізацый у Літве адзначыла дваццацігодзьдзе свайго руплівага шчыраваньня на ніве літоўскай беларушчыны.

— Вось ужо ў дваццаты раз Сьвята беларускай песьні сабрала сваіх сяброў, – прамовіла прэзыдэнт Згуртаваньня беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве Ларыса Сьлесарава. – За гады існаваньня нашае сьвята ператварылася ў маштабнае мерапрыемства, якое ўносіць свой вялікі ўклад ў шматнацыянальную культуру Літвы. Галоўная мэта фестываля – гэта папулярызацыя беларускай народнай песьні. Нездарма кажуць, што песьня – душа народа. І гэта сапраўды так. Вясёлыя і сумныя, лірычныя і жартоўныя, заўсёды мілагучныя, прыгожыя, поўныя вялікага хараства і шчырасьці, беларускія песьні – гэта велізарная найкаштоўнейшая энцыкляпэдыя жыцьця беларускага народа. Яны й сёньня застаюцца духоўнай повязьзю пакаленьняў, крыніцай радасьці, сродкам далучэньня да сапраўдных каштоўнасьцяў.

— Гэтае сьвята стала ўжо адной з самых адметных падзеяў у грамадзкім і культурным жыцьці беларускай нацыянальнай меншасьці ў Літве, – падкрэсьліў амбасадар Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Аляксандар Кароль. – Гэтае сьвята аб'ядноўвае тых, хто любіць нашую краіну, ганарыцца яе шматвяковай гісторыяй і паважае традыцыі беларускага народа. Хачу выказаць цёплыя словы падзякі Згуртаваньню беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве, намаганьнямі якога гэты фэстываль быў створаны, сталеў і ў выніку стаў сьвятам, якое аб'ядноўвае беларусаў Літвы. Няхай Фэстываль беларускай песьні і надалей займае пачэснае месца сярод мерапрыемстваў, прысьвечаных захаваньню нацыянальнай культуры ў Літве, а выступленьні калектываў пашыраюць колькасьць прыхільнікаў і аматараў беларускай песьні.

*Працяг на стар. 3*

# U novy hod – z novym rektaram

**Uračystym vykanańniem staradaŭniaha studenckaha himnu "Gaudeamus" raspačałasia Cyrymonija adkryćcia novaha navučalnaha hodu ŭ Eŭrapiejskim humanitarnym universytecie. Pierad junakami i dziaŭčatami ź Biełarusi i inšych krainaŭ alma-mater rasčyniaje svaje dźviery voś užo ŭ dvanaccaty raz na praciahu vilenskaha peryjadu isnavańnia.**

— Jakija ŭroki možna atrymać z usiaho taho, što adbyłosia za hetyja hady? – pramoviŭ Prezydent EHU akademik Anatol Michajłaŭ. – Pierš za ŭsio treba być krytyčnymi da samich siabie i mieć mužnaść pryznać, što my akazalisia nie padrychtavanymi, u pieršuju čarhu, u intelektualnych stasunkach, da tych vyklikaŭ, ź jakimi nam daviałosia mieć spravu ŭ svoj čas. Stvorany ŭ 1992 hodzie EHU źjaŭlaŭsia našaj kankretnaj sprobaju adkazu na hetyja vykliki. Prysutnaść u nazovie ŭniversytetu samoha paniatku "eŭrapiejski" źjaŭlałasia klučavym dla jahonaj źmiestavaj aryjentacyi. My sutyknulisia ŭ dadzienym vypadku ź nieabchodnaściu bolš hłybokaha asensavańnia, na jakim hruntujecca ŭzajemadziejańnie čałavieka j hramadztva ŭ cyvilizavanym śviecie.

U novy navučalny hod – z novym rektaram. Kolišni kiraŭnik universytetu Devid Hary Polik sioleta letam pakinuŭ svaju pasadu. Novym vykanaŭcam abaviazkaŭ rektara navučalnaj ustanovy staŭ datčanin Jorhien Jorhiensen (Jørgen Jørgensen). Pierad pryjezdam u Vilniu spadaru Jorhiensenu sobiła bolš za dva dziasiatki hadoŭ uznačalvać u Danii raznastajnyja ŭstanovy adukacyi dy achovy zdaroŭja.

— Maja meta – zrabić usio mahčymaje, kab vašyja ŭmovy, i ŭmovy ŭsich inšych studentaŭ, jakija navučajucca tut zaraz i buduć navučacca ŭ budučyni, stali bolš zručnymi, – padzialiŭsia v.a. rektara EHU Jorhien Jorhiensen. – Ja ŭpeŭnieny, što kožny z vas, chto siońnia pačynaje vučobu, ujaŭlaje zachaplalnaje padarožža tut u EHU, padarožža, jakoje nazaŭždy źmienić vašaje žyćcio i taksama pradstavić mahčymaści i nadzieju dla vašaj budučyni.

Na prafesyjny dośvied Jorhiena Jorhiensena ŭskładajuć vialikija spadziavańni. Čakajecca, što jaho prychod u navučalnuju ŭstanovu stabilizuje padmurak dla budučaha raźviccia ŭniversytetu.

— Pryznačeńnie novaha vykanaŭcy abaviazkaŭ rektara spadara Jorhiensena na pasadu – heta jašče adzin krok da taho, kab my mahli zabiaśpiečyć vielmi stabilnuju pracu pa finansavych pytańniach, arhanizacyjnuju pracu, kab my mahli zrabić EHU jašče bolš stałym, jašče bolš stabilizavać jaho ŭ takoj stupieni, kab raźviccio ŭniversytetu mahło adbyvacca i ŭ budučyni, – padkreśliŭ kiraŭnik EHU pa kamunikacyi j markietynhu Maksimas Miłta. – I tyja kampietencyi, jakimi vałodaje naš novy časovy vykanaŭca abaviazkaŭ rektara na praciahu bolš za 20 hadoŭ, a jon kiravaŭ najvialikšymi špitalami Danii, paśla hetaha jon byŭ dyrektaram administracyi ŭniversytetu ŭ Orchusie, heta druhi pa vieličyni ŭniversytet Danii, pry hetym vałodaje spadar Jorhiensen administratyŭnaj i menedžarskaj ekspiertyzaj, – heta toje, što patrebna zaraz EHU. Niahledziačy na toje, što de-jure my – jašče adzin pryvatny litoŭski ŭniversytet, ale de-fakta našaja misija vielmi mocna adroźnivajecca ad misii ŭsich astatnich pryvatnych litoŭskich universytetaŭ. My pracujem u pieršuju čarhu dziela biełaruskich studentaŭ, dziela budučyni Biełarusi, jakuju my bačym u Eŭropie.

Niahledziačy na šerah pierturbacyjaŭ, što nadoječy mieli miesca ŭ Eŭrapiejskim humanitarnym universytecie, a taksama krytyčnaje staŭleńnie da alma-mater z boku biełaruskich i zamiežnych srodkaŭ masavaj infarmacyi, cikavaść vypusknikoŭ škołaŭ Biełarusi da navučańnia ŭ biełaruskim universytecie ŭ vyhnańni nia źniziłasia. Sioleta na bakalaŭrskija i mahistarskija prahramy Eŭrapiejskaha humanitarnaha ŭniversytetu byli zaličanyja 264 abituryjenty.

— U hetym navučalnym sezonie pierš za ŭsio ŭ nas bolš pieršakurśnikaŭ, čym było ŭ 2015 hodzie, i z hetaj nahody my nasamreč vielmi radyja, – padzialiŭsia Maksimas Miłta. – U hetym hodzie EHU pryniaŭ dźvieście šeśćdziesiat čatyroch pieršakurśnikaŭ na bakalaŭrskija j mahistarskija prahramy, to bok na siamnaccać adsotkaŭ bolej, čym u 2015 hodzie. I, niahledziačy na vielmi ciažkuju ekanamičnuju sytuacyju ŭ Biełarusi, a absalutnaja bolšaść našych studentaŭ – heta biełarusy, niahledziačy na raznastajnyja inšyja padziei, jakija adbyvalisia ŭ našym universytecie, tym nia mienš my vielmi radyja bačyć, što intares ich da EHU, da našych navučalnych prahramaŭ nie zmianšajecca, a pavialičvajecca.

— Heta – Eŭropa! – zajaviła pieršakurśnica ź Bierascieješčyny Anastasija Dydyška. – Ja dumaju, heta j mahčymaść zrabić niešta dla hetaha śvietu, i heta vyjdzie lepš tut, čym u Biełarusi. Ja dumaju, što nie zaŭvažyli-b mianie tam, što, moža być, moj niejki talent nia staŭ-by hetkim jarkim, takim patrebnym u Biełarusi, a voś tut, ja spadziajusia, jon moža być navat vielmi-vielmi karysnym, mienavita tut.

— Student EHU – heta nia tolki status, – papiaredziŭ pieršakurśnikaŭ kiraŭnik akademičnaj častki EHU prafesar Alaksandar Kałbaska. – Heta mahčymaści: heta tyja mahčymaści, jakija adkryvaje pierad vami Vilnia i Eŭropa, mahčymaści spakusy, ale heta jašče j mahčymaści dastukacca da samich siabie i zrazumieć, chto vy jość, što vy jość, na što ŭ hetym śviecie zdatnyja, i jakim čynam možacie padrychtavać siabie da maksimalna poŭnaj samarealizacyi, kab praź piać albo siem hadoŭ niechta z vas atrymaŭ uznaharodu "Lepšy vypusknik EHU". Zyču kožnamu z vas pieramohi ŭ hetaj baraćbie i šlachu da samich siabie. Z pačatkam nialohkaha šlachu!

## IN MEMORIAM



### Тацьцяна Будзька (1934 — 2016)

Напачатку кастрычніка ў літоўскай сталіцы спынілася сэрца беларускі, ураджэнкі Смаргоні, Тацьцяны Фёдараўны Будзька. Пра гэта паведаміў старшыня Віленскага беларускага таварыства палітычных вязьняў і ссыльных Валянцін Стэх.

У ліпені 1950 году ў Маладэчне перад Ваенным трыбуналам Беларускай вайсковай акругі паўсталі ўдзельнікі Мядзельска-смаргонскага моладзевага антыкамуністычнага падпольля. Кіраўнік антысавецкай падпольнай арганізацыі дваццацідвухгадовы Расьціслаў Лапіцкі быў расстраляны. Астатнім падпольшчыкам прысудзілі розныя тэрміны зьняволеньня. Наймалодшая ўдзельніца падпольля Тацьцяна Будзька, у дзявоцтве Юшкевіч, атрымала 10 гадоў утрыманьня ў дзіцячых працоўных калёніях. На волю шаснаццацігадовая падпольшчыца са Смаргоні выйшла толькі пасьля сьмерці Іосіфа Сталіна, на свой дваццаты дзень народзінаў, 14 лютага 1954 г.

Рэдакцыя газэты "Рунь" выказвае шчырае спачуваньне сям'і, родным і блізкім Тацьцяны Будзька.

# Сьвята беларускай песьні-2016

*Працяг. Пачатак на стар. 1*

Сапраўднае сьвята ніколі не абыходзіцца без падарункаў. Эстэтычнае задавальненьне беларускай песьняю, якое атрымалі прысутныя на Сьвяце, патрабавала немалых высілкаў ад арганізатараў імпрэзы. Узнагародай за ахвярнасьць, творчую працу, значны ўнёсак кіраўнікоў ды рупліўцаў беларускіх музычных калектываў-удзельнікаў Фэстывалю ў захаваньне й папулярызацыю беларускай культуры ды традыцыяў у Літве сталі ўрачыстыя падзякі і ганаровыя граматы ад Дэпартамэнту нацыянальных меншыняў Літвы, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і амбасады Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы. Сярод ушанаваных апынуліся прэзыдэнт ЗБГАЛ Ларыса Сьлесарава і сябра Беларускага культурнага цэнтру "Крок" зь Вісагінаса Сяргей Шабадалаў.

— Я ўдзельнічаю сам з 1998 году ў Сьвяце беларускай песьні, а з 2009 году – вядучы гэтага сьвята, – гэтак ацаніў сваю лепту ў агульную справу па падрыхтоўцы й правядзеньні музычнага фэстывалю літоўскіх беларусаў Сяргей Шабадалаў. – Я паглядзеў, што адной жанчыне, якая вядзе сьвята, і цяжка, і ня вельмі прыгожа. Таму я прапанаваў сябе. Тым больш, што я ў сваім калектыве, у ансамблі "Сьвітанак" Беларускага культурнага цэнтру "Крок" таксама зьяўляюся і вядучым, і салістам гэтага ансамбля, і гэта справа мне ня новая. Я пішу сцэнары, пішу вершы і ўстаўляю іх у нашыя праграмы.



### Вытокі крыніц

У 1996 годзе месцам правядзеньня першага рэспубліканскага Фэстывалю беларускай песьні былі абраныя Салечнікі. Менавіта туды зьехаліся калектывы зь Вільні, Вісагінаса, Друскенікаў і іншых гарадоў Літвы.

— Вянок культуры Літвы павінен складацца з культураў усіх яе насельнікаў. І калі ў гэтым вянку будзе ўсё часьцей выглядаць нашая беларуская кветка – гэта будзе вельмі добра, – падкрэсьліваў тады старшыня Беларускага культурнага цэнтру ў Салечніках сьветлай памяці Пятро Малафей. – Калі ў нас кожны дом культуры будзе сьпяваць беларускія песьні, якія, дарэчы, яны і раней сьпявалі, проста мы ніколі не лічылі, што гэта трэба ўздымаць на ўзровень раёна, як раённае сьвята, – колькі беларускіх людзей, які вялікі пласт беларускай культуры будзе заняты ў гэтым усім! Я думаю, што гэта паслужыць умацаваньню нашай культуры, нашых каранёў на гэтай зямлі.

Станаўленьне беларускіх музычных імпрэзаў у Літве разьвівалася паралельна зь дзейнасьцю беларускіх грамадзкіх суполак. Тагачасны Віленскі гарадзкі клуб аматараў народнай творчасьці "Сябрына" па меры магчымасьцяў знаёміў зь беларускай песьняю жыхароў Вільні і сталічных ваколіцаў.

— Калі 25 верасьня 1996 г. было афіцыйна зарэгістравана Згуртаваньне беларускіх грамадзкіх арганізацыяў Літвы, якое ўзначальваў заслужаны артыст і дзеяч мастацтваў Літоўскай ССР Леанід Адамавіч Мурашка, гэтае сьвята набыло і сістэматычны характар, стала ладзіцца штогод, – прамовіў старшыня Віленскага гарадзкога клубу "Сябрына" Валянцін Стэх. – Менавіта дзякуючы Леаніду Адамавічу гэтае сьвята стала традыцыйным і, так-бы мовіць, задало меры часу, рытм нашаму жыцьцю: людзі сталі чакаць гэтага сьвята, сталі змагацца за ўдзел у ім. Прыемна бачыць, што на сёньняшні дзень геаграфія гэтага сьвята, так скажам, уражвае.

### Сьпеўная геаграфія

Сёлета юбілейны Фэстываль беларускай песьні сабраў у літоўскай сталіцы калектывы мастацкай самадзейнасьці з розных куткоў краіны: з Салечнікаў, Вісагінаса, Клайпеды. Да іх далучыліся прадстаўнікі іншых народаў Літвы і замежныя госьці з Латвіі ды Беларусі.

— Мы да вас прывезьлі наш знакаміты прафэсійны калектыў, які добра ведаюць ня толькі ў Рэспубліцы Беларусь, але і па-за яе межамі, – прадставіў гасьцей з мэтраполіі намесьнік міністра культуры Беларусі Васіль Чэрнік. – Гэта дзяржаўны ансамбль "Сьвята", які выступіць перад вамі сёньня з канцэртнай праграмай.

— Сьвята цудоўнае, я задаволеная, што мы за сто дваццаць кілямэтраў прыехалі сюды. Жадаем, каб і далей такія сьвяты былі, і ня толькі юбілейныя, але й каб кожнае сьвята штогод было на высокім узроўні. Беларусы ўмеюць сьпяваць, умеюць і танцаваць, – падкрэсьліла старшыня Таварыства беларускай культуры "Спадчына", г.Друскенікі, Валянціна Іваноўская. - Так здарылася, што са "Сьвятам", якое на сьвяце сёньня выступала, радавала нас сорак хвілінаў, мы пазнаёміліся гадоў восем таму ў Стоўбцах. Хто сказаў, што зямля вялікая?

У прамінулым юбілейным дзясятым Сьвяце беларускай песьні браў удзел і маладзевы музычны калектыў "Спадчына" з Друскенікаў. На вялікі жаль, сёлетнюю круглую дату беларускі песенны фэстываль адзначае бязь іх.

– У нас быў такі цудоўны калектыў, якога нам сёньня не хапае. Дзеці нашыя прадстаўлялі беларусаў Літвы на 19 міжнародным фэстывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы ў 2000 годзе, у 2001 годзе былі запрошаныя ў якасьці ўдзельнікаў на фэстываль "Славянскі базар" у Віцебску. Сабраць мы ня можам, таму што няма энтузіястаў, якія-б хацелі сьпяваць. Галасы ёсьць, а сьпяваць ня хочуць, – патлумачыла Валянціна Іваноўская.

— Беларусаў у Літве шмат, але некаторыя ня хочуць гэта паказваць. А тыя, каторыя не саромеюцца гэтага, каторыя памятаюць пра свае карані, сёньня – на сцэне, або ў залі, або чакаюць тэлеперадачы "Віленскі сшытак", каб паглядзець, як прайшло сьвята, – зазначыла мастацкі кіраўнік віленскага калектыву "Сябрына" Валянціна Кавальчук. – Ад сьвята ўзьнікла пачуцьцё яднаньня беларусаў. І вельмі важна гэта, што мы зьбіраемся, вось гэта, напэўна, адзіная магчымасьць у годзе сабрацца нам усім. Такое сьвята яднае нас усіх, мы ўсе разам, і ад гэтага вельмі хораша і радасна.

— Калі кожны год калектыў адшліфоўвае свае таленты, то, вядома, сьвята з кожным годам будзе лепей і лепей. За дваццаць год калектывы падрасьлі на высокі ўзровень, сапраўды сталі моцнымі, і мне было за іх ня сорамна, – паведаміла Ларыса Сьлесарава. – Вядома, гэта не мая заслуга, гэта ўсё-такі заслуга старшынь суполак, вялікая заслуга кіраўнікоў ансамбляў. Тое, што яны кожны год рыхтуюцца да сьвята з такім энтузіязмам – гэта вялікі плюс.

— Юбілейнае сьвята заўсёды чаканае, і да яго рыхтуешся больш, таму што гэта ўжо пэўны час прайшоў, і трэба штосьці новае паказаць, адно і тое-ж гледачам будзе ня вельмі цікава глядзець, на адныя і тыя-ж песьні, – сказала мастацкі кіраўнік клайпедзкага вакальнага ансамбля "Купалінка" Валянціна Сьнігур. – Ужо больш маладых людзей дадалося ў кожны калектыў. Таму гэтае сьвята патрэбнае, і трэба моладзь у нашы суполкі прымаць.

*Заканчэньне на стар. 8*

# Пакуль рука пяро трымае...

Да часу маючы інтэрас,
Не зачыняючы дзьвярэй,
Гаворыць зь векам
Зоська Верас,
Як з братам,
Што крыху старэй.

*Рыгор Барадулін. "Бяседа". 1986 г.*

**Славутую паэтку, рэдактарку і мэмуарыстку Людвіку Сівіцкую-Войцік, больш вядомую пад псэўданімам "Зоська Верас", за даўгалецьце ды ясны розум часта называюць сьведкай беларускага жыцьця XX стагодзьдзя. Сёлета 8 кастрычніка мінула 25 гадоў, як Зоська Верас выправілася ў доўгую дарогу за небакрай. Багаты архіў літаратаркі доўгі час чакаў свайго прызначэньня. У 2013 годзе лісты й успаміны Людвікі Сівіцкай утварылі кнігу "Зоська Верас. Я помню ўсё", укладальнікам якой стаў журналіст і паэт Міхась Скобла.**

Праз два гады сьвет пабачыў новы зборнік мэмуараў і карэспандэнцыі Зоські Верас пад назовай "Пакуль рука пяро трымае", прэзэнтаваная ў віленскім Доме нацыянальных згуртаваньняў. Літаратурная імпрэза была арганізаваная супольнымі намаганьнямі Віленскага гарадзкога клубу "Сябрына", асацыяцыі "Крывія" і Таварыства беларускай культуры ў Літве. Аб'ёмны фаліянт склалі лісты літаратаркі Зоські Верас да шматлікіх адрасатаў па ўсёй Беларусі ды за яе межамі. Укладальнікам кнігі ізноў стаў паэт, журналіст беларускай рэдакцыі Радыё Свабода Міхась Скобла.

— Кніга "Пакуль рука пяро трымае..." разам з кніжкай "Я помню ўсё" складае фактычна двухтомнік успамінаў Зоські Верас, яе лістоў, і важна яшчэ зазначыць, што ніводны тэкст у гэтых кнігах не паўтараецца. Хоць яны з выгляду не падобныя, выходзілі ў розных выдавецтвах, у розных сэрыях, але тут кніга кнігу працягвае, – прамовіў літаратар падчас прэзэнтацыі выданьня. – Яны так называюцца таксама не выпадкова: "Я помню ўсё" – таму, што ўсе, хто зь ёю знаўся, сябраваў зь ёю, адзначалі проста фэнамэнальную памяць, як яна памятала падзеі, людзей, нейкія драбніцы, якія насамрэч вельмі важныя. І вось гэтыя словы сустракаюцца ў адным зь яе лістоў, і таксама сустракаюцца ў яе лістах вось гэтыя словы "Пакуль рука пяро трымае". Калі яна ў вельмі глыбокай старасьці вельмі кепска бачыла, але ўсё роўна працягвала пісаць свае лісты, і на такіх разьлінаваных аркушах – ёй, відаць, хтосьці рыскі гэтыя праводзіў – яна ўжо ўсьляпую пісала, але ўсё роўна ўдакладняла нейкія факты, адказвала на пытаньні, а гэтых пытаньняў ей задавалі ўсё жыцьцё і вельмі шмат.



— З Зоськай Верас мы пазнаёміліся недзе напрадвесьні 1986 года разам з Алегам Аблажэем і Крысьцінай Балаховіч, – згадаў старшыня Віленскага гарадзкога клубу "Сябрына" Валянцін Стэх. – Калі ўвосень 1986 году мы вырашылі адзначыць васьмідзясятыя ўгодкі "Нашай Нівы", тады падчас юбілейнай вечарыны прагучала прапанова Валдаса Банайціса наконт стварэньня сумеснага "літоўска-беларускага таварыства дружбы", на што Зоська Верас катэгарычна сказала: "Ніякіх таварystваў, трэба ствараць беларускі клуб!". Гэтае пытаньне ўжо і да Зоські Верас намі абмяркоўвалася, яна як-бы падштурхнула нас да гэтага кроку. Пасьля таго, як да Валдаса Банайціса, які спачатку зацікавіўся беларускай літаратурай, пасьля стаўся кніганошам, арганізаваў у кнігарні ў Новай Вільні куток беларускай літаратуры, выпадкова трапіў чарговы нумар газэты "Літаратура і мастацтва" з адбітым на ім маім адрасам, ён напісаў мне, у выніку чаго між намі завязалася перапіска. Пасьля Валдас Банайціс прапанаваў арганізаваць нешта кшталту літоўска-беларускага таварыства дружбы. Не забывайма, што гэта быў 1985 год! І толькі пасьля, калі нам удалося раздабыць адрасы мясцовых беларусаў, якія зьяўляліся падпісчыкамі выданьня "Літаратура і мастацтва", калі мы спачатку між сабою ў нейкай ступені паразумеліся, сьпісаліся, сталі сустракацца, вырашылі разам з Алегам Аблажэем і Крысьцінай Балаховіч наведаць Зоську Верас, пасьля чаго сталі часта там бываць. Памятаю, як мы ўпершыню пры дапамозе Лявона Луцкевіча ішлі па загадкавых сьцежках, як стараліся запомніць гэтыя сьцежкі, і пасьля, калі прыйшлі туды, як мы зь ёю кантактавалі. Зоська Верас, на жаль, фактычна нічога ня чула, але затое мела востры зрок, і таму нашыя кантакты зь ёй абмяжоўваліся перапіскай. Мы пісалі ёй, так скажам, лісты – існаваў спэцыяльны сшытак, – а яна пісала нам. У такі спосаб адбываўся кантакт. Зоська Верас была вельмі шчырым, адкрытым і цёплым чалавекам. Разам з тым знайсьці шлях да яе сэрца было часам, можа, не лягчэй, чым дарогу да той-жа Лясной хаткі.

– Калі ў 1987 годзе я вярнуўся з савецкага войска, Анатоль Сідарэвіч кажа: "Трэба зь цябе стрэсьці савецкі салдацкі пыл, і я ведаю, як гэта зрабіць: паедзем у Вільню, у Панарскі лес, трэба сустрэцца з Зоськай Верас", – паведаміў Міхась Скобла. – І так сталася, што гэта сапраўды для мяне было адкрыцьцё, уражаньне незвычайнае: у ёй прысутнічаў нейкі беларускі магнетызм, яна сядзела ў фатэліку, маленькая, але ад яе сыходзіла сьвятло, прынамсі, гэтае сьвятло мне бачылася.

Паводле Міхася Скоблы, Людвіка Сівіцкая-Войцік напрыканцы жыцьця разьмяркоўвала свае архівы паміж рознымі музэямі ў Беларусі: яе допісы знайшліся ў Акадэміі Навук у Менску, Музэі-архіве літаратуры і мастацтва, Музэі М. Багдановіча ў Менску і ў Гародні, музэі ў Гудзевічах на Гарадзеншчыне.

— Калі нарэшце выпала мне трапіць у яе архівы – яна свае архівы разьмяркоўвала паміж рознымі менскімі музеямі, то бок трэба было аб'ездзіць усе мясьціны, – калі я пабачыў, што ляжаць гэтыя ўспаміны, ляжаць лісты, а гэтых лістоў было шэсьць тысячаў, уявіце сабе... – зьвярнуўся да аўдыторыі Міхась Скобла. – Чалавек напісаў шэсьць тысячаў *лістоў* – так яна сама падлічвала! Давайце зададзімся пытаньнем: хто сёньня з вас піша лісты асадкай на паперы? Ну хто піша? Ніхто? Вось! Карыстаемся інтэрнэтам, а ў гэтым інтэрнэце словы вылятаюць. Напісанае застаецца! Пішыце лісты, каб вашым дзецям, вашым нашчадкам, наступным пакаленьням засталося ваша жыцьцё, каб было штосьці і ім перадаць. Тады інтэрнэту ў "Лясной хатцы" Зоські Верас не было. Яна пісала гэтыя лісты. Гэта лісты незвычайныя, гэта лісты-успаміны, гэта працяг успамінаў, у гэтых лістах няма чагосьці будзённага, што сёньня цікава, а заўтра нецікава, яна ўспамінае ў гэтых лістах пра падзеі, сьведкай якіх яна была. А была яна сьведкай вельмі шматлікіх падзеяў. У абедзьвюх кнігах надрукавана дзесьці прыблізна каля васьмісота лістоў, то бок невялікая частка з тых шасьці тысячаў, якія яна напісала. Часта яны паўтараюцца,

адрасаваныя да розных людзей, і я стараўся, каб гэтых паўтараў у кнігах не было. Гэтыя лісты чытаюцца проста як нейкі захапляльны раман, можна сказаць, што гэта нейкі такі эпісталярны летапіс ладнага кавалка беларускага жыцьця ў XX стагодзьдзі. Гэтыя яе лісты і ўспаміны сьведчаць пра тое, што яна стаяла на варце гістарычнай праўды. Гэта быў яе першы клопат: выкрываць фальшыўцаў, фальсыфікатараў беларускай гісторыі, а такіх было тады шмат, я маю на ўвазе савецкі час. Тады пісаліся раманы, пісаліся цэлыя кнігі пра тое, як Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана з дапамогай немцаў у 1918 годзе. Зоська Верас апісвае падрабязна, што яна бачыла, як немцы, прыйшоўшы ў Менск, усе беларускія арганізацыі выкінулі гвалтам з Губэрнатарскага дома. Ужо тым, што яна пражыла, пабачыла і зафіксавала, яна займае вельмі пашанотнае месца ў беларускай гісторыі, беларускай літаратуры. Нават калі пералічыць, на якіх дзялянках яна працавала: яна пісала вершы і прозу, яшчэ ў "Нашай Ніве" пачала друкавацца разам з Багдановічам, Купалам і Коласам у 1911 годзе пад псэўданімам "Мірко". Зоська Верас была лексікографам. Гэты яе "Беларуска-расейска-польска-лацінскі батанічны слоўнік" да сёньняшняга часу карыстаецца попытам, бо лепшага ніхто не склаў. Яна была рэдактар і выдавец. Яна выдавала тры часопісы: "Заранка" для дзяцей, "Пралескі" для дзяцей і "Беларуская борць" для пчаляроў. Без усякіх дзяржаўных датацый, без усякіх амбіцый, без гарантаваных ганарараў, на сваім энтузіязьме гэта ўсё рабіла, і сёньня гэтыя часопісы чытаюцца – нядаўна Бібліятэка Ўрублеўскіх зьмясьціла беларускія выданьні ў інтэрнэт, і цяпер іх вельмі лёгка знаходзіць – я чытаю свайму дзевяцігадоваму сыну Вячку вершыкі зь верасаўскай "Заранкі", і яму падабаецца, яму гэта таксама цікава. Зоську Верас можна назваць мэцэнатам: калі паэт Міхась Машара сядзеў на Лукішках, ён дасылаў адтуль вершы, і пакуль ён сядзеў, яна склала зборнічак. І нават, як піша ў адным зь лістоў, невялічкі ганарар яшчэ неяк выхітрыла, знайшла такую магчымасьць. Я лічу, што адным гэтым ужо ўчынкам яна, бы княгіня Магдалена Радзівіл, якая, як вядома, зафундавала "Вянок" Максіму Багдановічу, выдала вельмі сімпатычную кніжку Міхася Машары. Таксама Юры Туронак расказвае, як Зоська Верас камусьці дала свой пашпарт. Гэта, я лічу, проста гераічны эпізод у яе жыцьці. Уявіце сабе: Другая сусьветная вайна, немцы ў Вільні. Зоф'я Дабрынская – яна была матэматыкам, аўтаркай некалькіх падручнікаў па матэматыцы, якія выходзілі ў трыццатыя гады, – была габрэйкай, і ёй у Вільні пагражала расправа. І вось прыбег да Зоські Верас Янка Станкевіч і кажа: "Можа быць, па Вашым пашпарце яна зможа выехаць зь Вільні?". І Зоська Верас, якая ніколі ня бачыла гэтую Зоф'ю Дабрынскую, і Станкевіча мала ведала, бярэ і дае пашпарт свой, і па гэтым пашпарце Зоф'я Дабрынская выязджае ў Варшаву і там хаваецца. Уявіце сабе, што было-б, каб дзесьці на мяжы які-небудзь немец, правяраючы гэтыя аўсвайсы, выявіў, што чалавек едзе па чужым пашпарце? Расстрэл на месцы. І таму, хто ехаў, і таму, хто даў пашпарт. Я лічу, што гэта мужны гераічны ўчынак, і гэта таксама трэба памятаць. Праўда, праз тры дні Станкевіч прывёз гэты пашпарт назад, але ўявіце сябе на месцы Зоські Верас: ці кожны з нас так рызыкнуў-бы фактычна для чужога чалавека?

У жыцьці Зоські Верас вылучаюць гарадзенскі, менскі, віленскі ды іншыя пэрыяды, і паўсюль імя яе згадваюць з пашанай. Дык і ня дзіва, што да выданьня эпісталярнай спадчыны літаратаркі спрычыніліся жыхары Менску, Гародні, Вільні й нават Прагі.

— Адна справа – знайсьці ў архівах матар'ял, сабраць, набраць, адрэдагаваць, але, каб рукапіс дайшоў да друкарскага варштата, трэба грошы, – прызнаўся Міхась Скобла. – Вось Андрэй Ганько з Прагі і Зьміцер Карачун у гэтай справе самым чынным спосабам дапамаглі, і гэтая кніга выйшла. Таксама дзякуй хачу сказаць Яраславу Войціку, што ў абедзьвюх кніжках ёсьць рэдкія фотаздымкі, якія ён мне даслаў, і мы можам ня толькі пачытаць, але й пабачыць ня толькі Зоську Верас, але й яе бацькоў. Такіх здымкаў у менскіх архівах няма.

— Атрымалася так, што на прэзэнтацыі першай кнігі, якую выдаў Міхась Скобла пра Зоську Верас, у Таварыстве Беларускай Культуры, у мяне і нарадзілася такая ідэя, каб дапамагчы з выданьнем другой кнігі, – паведаміў Зьміцер Карачун. – Мне вельмі прыемна, што мы сёньня прэзэнтуем гэтую кнігу, вельмі прыемна, што спадчына Зоські Верас распаўсюджваецца, не ляжыць дзесьці ў архівах грузам, а набывае свайго чытача.

Паводле ўнука Зоські Верас Яраслава Войціка, Людвіка Сівіцкая-Войцік згадваецца як чалавек, які сапраўды ўсё ведаў, усё ўспамінаў, у каторага можна было запытацца і аб расьлінах, і аб агародзе, і аб старых падзеях.

— І яшчэ адзін яе быў клопат – гэта чысьціня беларускай мовы, – падкрэсьліў Міхась Скобла. – Яна выгаворвала ўсім. Яна чытала вельмі шмат літаратуры, ёй дасылалі ці прывозілі, і кожнаму: ці Янку Брылю, ці Ўладзіміру Караткевічу, ці Рыгору Барадуліну, – яна заўсёды знаходзіла русізмы ў іхняй творчасьці і заўсёды падкрэсьлівала: "Ня псуйце беларускую мову". Быў, праўда, адзін паэт, якога яна лічыла бездакорным – Алег Мінкін. Паводле лістоў, у Мінкіна мова вельмі беларуская, і паэтычны талент таксама. Ёй хтосьці перадаў Алегаву кніжку "Сурма", і яна так захаплялася гэтай кніжкай, што ўсім рэкамендавала, усім пісала мінірэцэнзіі, каб зьвярнулі ўвагу, што зьявіўся такі выдатны паэт.

— Зоську Верас я коратка вельмі бачыў, вельмі хворую, на сконе ўжо жыцьця ў новай кватэры яе дачкі Галіны, – прызнаўся Алег Мінкін. – Мне не выпадала зь ёй кантактаваць, проста ёй нехта перадаў маю першую ксёнжачку, якая выйшла ў 1985 годзе. Яна пахваліла там мову вершаў. А ейны вобраз склаўся ў мяне ўжо пасьля яе сьмерці. Мне давялося друкаваць успаміны самой Зоські Верас і "Партрэты віленчукоў": на радыё была праграма Лявона Луцкевіча "Партрэты віленчукоў". Гэтыя тэксты пісаліся для радыё. Яны захаваліся. Потым я заняўся выдавецкай дзейнасьцю, і ўзьнікла ідэя на аснове гэтых карацелек зрабіць публікаткі, пашырыць іх і гэтак далей. Калі Лявон Луцкевіч памёр, дапамагала Галіна Войцік. Фактычна гэта яе тэксты, проста апрацаваныя мною як рэдактарам.

У выніку руплівай дзейнасьці Зоські Верас, Лявона Луцкевіча, Галіны Войцік і Алега Мінкіна сьвет пабачылі паўтара дзясятка кароткіх брашураў, выдадзеных у агульнай сэрыі "Партрэты віленчукоў". Кожная публікатка ўтрымлівала біяграфію пэўнага віленскага беларуса. Яшчэ трыццаць пяць жыцьцярысаў чакаюць свайго зьяўленьня на сьвет.

— Я даўно мару аб тым, каб нават тыя пятнаццаць, што ўбачылі сьвет, былі выдадзеныя пад адной вокладкай, – прызнаўся Валянцін Стэх. – Па-другое, я думаю, што трэба ў нейкі спосаб знайсьці магчымым тыя чарнавікі, якія, дзякаваць Богу, захаваліся, апрацаваць і ў рэшце рэшт таксама выдаць. Адно, што гэта наша памяць, другое – што ў іх укладзена вялікая праца, і пакінуць цяпер гэтую працу незавершанай недаравальна.



# Kab usie byli adno... Bieraściejskaj unii – 420 hadoŭ



**Krychu bolš za piaćsot hadoŭ tamu praz haradzkuju bramu z "Pahoniaj" naviersie ŭ Vilniu ŭračysta ŭjazdžaŭ vialiki hietman litoŭski kniaź Kanstancin Astrožski. Ujazdžaŭ tryjumfalna: 8 vieraśnia 1514 h. na Krapivienskim poli pad Voršaju tryccać tysiačaŭ abjadnanaha šmatnacyjanalnaha vialikakniaskaha vojska pieramahli amal vaśmidziesiacitysiačnuju armiju ŭschodniaha susieda – Maskoŭskaj dziaržavy.**

U padziaku niabiosam za pieramohu pad Voršaju slavuty vojskavod i abaronca pravasłaŭja adbudavaŭ u Vilni try pravasłaŭnyja chramy: Pračyścienski sabor, Śviatamikałajeŭskuju carkvu i chram Śviatoj Trojcy z manastyrom. Mienavita tut na krychu bolš za stahodździe paźniej paŭstaŭ adzin z centraŭ chryścijanskaj płyni ŭnijactva. 420 hadoŭ tamu, u kastryčniku 1596 hodu ŭ bieraściejskaj Śviatamikałajeŭskaj carkvie na admysłovym carkoŭnym sabory pradstaŭniki katalickaj i pravasłaŭnaj cerkvaŭ Rečy Paspalitaj padpisali akt pra ŭźjadnańnie.

— Razmovy pra adnaŭleńnie jednaści pamiž ruskimi jeparchijami VKL i Apostalskim Rymskim Pasadam na samaj spravie vialisia ŭ roznych miescach, – paviedamiŭ Apostalski vizytatar dla hreka-katolikaŭ Biełarusi archimandryt Siarhiej Hajek. – Synody štohod źbiralisia ŭ inšych miescach, miž inšymi, u Łucku, u Bieraści, i na adnym z synodaŭ, tym, dzie było pryniataje rašeńnie pasłać delehacyju ŭ Rym (jana pryjechała napiaredadni Kaladaŭ, Rastva Haspodniaha 1595 hodu), našyja ŭładyki jak delehaty ruskaha jepiskapatu adnavili akt jednaści z Rymskim Pasadam, ale ŭžo praklamacyja hetaha aktu jednaści mieła miesca ŭ Bieraści. Mahčyma, Vilnia ŭ toj čas była daloka ad Zachodniaj Biełarusi, asabliva ad Vałyni, ale była bližej da Połacka. Tym nia mienš jakraz Bieraście stała centram adnaŭleńnia hetaha aktu. Moža, tamu, što ŭ Bieraści ŭ toj čas była sustreča, skažam tak, roznych relihijnych płyniaŭ: i Refarmacyi, i Ryma-Katalickaj carkvy. Da Ŭładyki łacinskaha było taksama bližej, tak što taki byŭ histaryčny los. Ale, viadoma, užo ŭ toj čas Vilnia była vialikim duchoŭnym centram, asabliva niekalki hadoŭ pašla ŭnijnaha saboru, napačatku 17 stahodździa, asabliva pašla podźvihu śviatoha Jazafata, jaki tut pačynaŭ svoj manaski podźvih, spryjaŭ i duchoŭnamu, i dušpastyrskamu ŭmacavańniu, taksama i manachaŭ, jakija tut žyli. Na praciahu historyi ŭnijackaj carkvy było niekalki centraŭ: była Vilnia, byŭ Połacak, taksama stalica dla nas vielmi važnaja, taksama j Miensk, ale Miensk ŭsio-taki žyŭ, možna skazać, u cieniu Vilni.

Praz dvaccać hadoŭ pašla zaklučeńnia Bieraściejskaj carkoŭnaj unii ŭ vilenskim śviatatrajeckim manastyry pry ŭdziele ŭnijackaha carkoŭnaha i hramadzkaha dziejača Vialikaha Kniastva Litoŭskaha śviatamučanika Jazafata Kuncevičа byŭ utvorany manaski orden bazyljanaŭ. Za ruplivuju papularyzacyju ŭnijactva siarod vilenčukoŭ niepryjacieli ź liku adeptaŭ pravasłaŭja narakli śviatoha Jazafata "Dušachvatam". Masavy prytok neafitaŭ vyklikaŭ vostruju niezadavolenaść u vilenskich pravasłaŭnych relihijnych dziejačoŭ, što časam vylivałasia ŭ adkrytyja ŭzbrojenyja sutyčki. Hradus varožaści padahravaŭsia palemičnaj tvorčaściu Mialecija Smatryckaha.

— Pačatak arhanizacyi ŭnijackich jeparchijaŭ prachodziŭ u kantekscie peŭnych paprokaŭ, peŭnych, možna navat skazać, kanfliktaŭ, – paćvierdziŭ archimandryt Siarhiej Hajek. – Chacia napeŭna śviaty Jazafat heneratarам kanfliktaŭ nia byŭ. Heta byŭ čas palemiki. Smatrycki staŭ unijatam užo pašla śmierci śviatoha Jazafata. Smatrycki i Jazafat byli asoby vučonyja, vielmi adukavanyja, tamu Mialeci Smatrycki zrazumieŭ, što hetaje viartańnie jednaści Ŭschodu i Zachadu, što prapanavała ŭnijackaja carkva, – heta štości kaštoŭnaje.

Sioleta 12 listapada padčas Archirejskaj Boskaj liturhii ŭ carkvie Śviatoj Trojcy kanonik papskaj bazyliki Santa Maryja Madžore (Basilica di Santa Maria Maggiore) u Rymie Ŭładyka Irynej Biłyk ŭračysta abviaściŭ pra pačatak Jubilejnaha hodu 400-ch uhodkaŭ Bazyljanskaha Čynu Śviatoha Jazafata. Razam ź Iryniejem Biłykam słužyli Apostalski nuncyj u Litvie archibiskup Pedra Łopies Kvintana, Mitrapalit Vilenski Ryma-Katalickaha kaściołu ŭ Litvie archibiskup Gintaras Grušas, novy ihumien Vilenskaha manastyra bazyljanaŭ a. Vinkienci Pelich, a taksama inšyja śviatary z Ukrainy, Partuhalii, Polščy, Słavakii, Kazachstanu i Biełarusi.

— Unijackaja carkva ŭ XVII stahodździ abniała šmat viernikaŭ chryścijanaŭ na Biełarusi, – skazaŭ archimandryt Siarhiej Hajek. – Ale zastavalisia peŭnyja hrupy pravasłaŭnych, asabliva kali havorym pra Mahiloŭščynu, tamu na samaj spravie Biełaruś zaŭždy była placoŭkaj sustreč roznych tradycyjaŭ i navat, moža, kanfliktaŭ. Napeŭna, unijackaj carkvie nie ŭdałosia realizavać ramantyčnaj jednaści, kab usie sapraŭdy byli adno.

*Praciah na star. 8*

# Jak ź mianie zrabili vučyciela...

***Francišak ALACHNOVIČ***

Spatkaŭsia ja z Taraškievičam. Jon uchapiŭsia za mianie:

— Ach, dobra, što ja ciabie baču... Ty vielmi patrebny... Ty budzieš vučycielem polskaj movy i litaratury ŭ našaj himnazii...

— Što? Ja? Ale-ž ja nie patraplu... Nu, movu ŭ małodšych klasach - jašče siak-tak. Ale litaraturu! U mianie niama da hetaha nijakaj padrychtovy... A chto dahetul byŭ vučycielem?

— Była D. Ale jana raptam vyjechała ŭ Koŭnu... Nikoha niama... Kančajecca školny hod... Treba, kab ty ŭziaŭsia za heta... Idzi zaraz da dyrektara Kachanoviča, pahavary ź im... Zaraz i ja sam prydu...

Heta hutarka adbyłasia ŭviesnu ŭ 1921 hodzie. Ja tolki što pryjechaŭ ź Miensku ŭ Rodnuju Vilniu. Dadzieŭ mnie Miensk i balšaviki. Mnie ŭdałosia dastać ad Čarviakova kamandziroŭku ŭ spravach teatralnych u Radaškavičy, a adtul ja pierabraŭsia da Vilni. Ja siadzieŭ u Vilni biez nijakich jašče planaŭ na budučyniu, kali Taraškievič zaprapanavaŭ mnie ŭ biezapelacyjnaj formie pasadu vučyciela polskaj movy i litaratury ŭ Vilenskaj biełaruskaj himnazii. Ja nia moh adnieścisia da hetaj prapazycyi pavažna. Nikoli ŭ žyćci pedahoham ja nia byŭ, a da hetaha i vykładčykam polskaj litaratury!

Adnak da Kachanoviča ja pajšoŭ. Tam vyjaśniłasia, što vučni nadta słaba viedajuć polskuju movu, a polskaja školnaja ŭłada, niahledziačy na heta, što himnazija zusim niadaŭna apynułasia pad jaje zahadam, vymahała, kab kurs navučańnia byŭ zakončany pavodle novaj praniataj u va ŭsioj Polšča prahramy. Vučycielka D. pierad kancom školnaha hodu kinuła pracu i pajechała ź Vilni. Treba školny hod zakončyć pa novaj prahramie, bo inakš usie vučni zastanucca ŭ svaich klasach na druhi hod. Treba ratavać pałažeńnie. Ja zhadziŭsia... vykładać polskuju movu i litaraturu ŭ biełaruskaj himnazii. Zaŭtra miełasia adbycca ŭžo pieršaja lekcyja.

Pryhataŭlacca da lekcyjaŭ užo nia było času. Treba było vybrać lahčejšyja dla siabie mamenty z historyi polskaj litaratury, blisnuć imi pierad majoj aŭdytoryjaj, kab, kryj Boža, jana nie zdahadałasia, što prafesar zusim nie padhatavany da vykładańnia, i niejak zakončyć školny hod. Dobra, što zastavałasia ŭsiaho da kanca tolki kolki tydniaŭ... Ja ličyŭ, što najlepš budzie pasłuchoŭvacca ŭ 8-j klasie lekcyjnym sposabam vykładańnia... Tut-ža ludzi amal śpiełyja, universyteckaja systema dla ich najbolš adpaviednaja... Na pieršuju lekcyju ja pryhatavaŭ temu "Vilnia i pačatki polskaha ramantyzmu". Pierš-napierš jana była dla mianie najlepšaj, a pa-druhoje - zdavałasia jana mnie najcikaviejšaj: bo-ž tut u Vilni, u hetych Bazyljanskich muroch, dzie była himnazija, adbyvalisia sceny "Dziadoŭ" - zachaplajučaj paemy Mickieviča. Nivodzin debiutant u teatry nia maje hetkaj "temy", jakuju mieŭ ja, idučy ŭ himnaziju na pieršuju svaju lekcyju.

Pryjšoŭ z knižkami ŭ partfeli, ź jakich mieŭsia čytać cytaty, z kanspektam lekcyj. Na stale pałažyŭ pierad saboj hadzińnik dla pravierki, ci lekcyja ŭkładvajecca ŭ pradbačanyja 45 lekcyjnych minutaŭ, - i pačaŭ.

Spačatku ja adčuŭ vucham u svaim hołasie maleniečkaje "tremolo". Treba apanavać siabie. Kryj Boža, pakazać słuchačam, što ja ich bajusia, što ja nie davoli śmieła kidaŭ frazu. Udałosia. Užo dalej spakojna, svabodna vioŭ svaju lekcyju. Hadzińnik pakazvaje, što užo prajšło 25 minutaŭ. Bolš pałovy lekcyi. Ničoha. Materyjału chopić. Usio jdzie dobra. Pačynaju pryhladvacca da tvaraŭ svaich słuchačoŭ. Niešta dziŭnaje. Na hetych tvarach zusim nie takaja reakcyja, jakoj ja spadziajusia. Tam, dzie ja spadziajusia vyklikać na tvary ŭśmiešku, baču nudnyja miny, tam, dzie spadziajusia vyklikać padjomu zacikaŭleńnia, baču, jak słuchačy pierahladajucca pamiž saboj, byccam kažučy svaimi vačyma: "Na što jon nam usio heta havora?" Niaŭžo-ž maja aŭdytoryja staić na hetkaj intelektualnaj vyšyni, što bačyć usie maje natuhi chavać moj niedachop erudycyi, starajučy zamianić jaje kventnymi efektami? Niaŭžo-ž jany rasšyfravali mianie? Niaŭžo-ž čytajuć u majoj dušy? Voś dyk papaŭsia! Maroz prabieh pa majoj skury.

Kančajucca 45 minutaŭ. Zaraz budzie zvanok. Ja chaču vyklikać aŭdytoryju na ščyraść. Chaču niešta daviedacca. Kančaju. Ustaju. Pytajusia:

— Ci ŭsio było zrazumieła?.. Mo chto z vas maje niejkija pytańni?..



Doŭha ŭstrymleny śmiech narešcie sparyvajecca. Klasa śmiajecca zdarovym, maładym, viasiołym śmiecham. Ja staju ździvavaŭšysia. Niaŭžo-ž maja lekcyja zusim ničoha nia varta, varta tolki śmiechu... Źbiantežany, pačyrvanieŭšy, staju i hladžu na hetych zalitych śmiecham dziaŭčat, na hetych viasiołych chłopcaŭ.

— U čym sprava?

— Vybačajcie, Panie Vučyciel, ale my ničoha nie zrazumieli...

— Jak? Vy nie razumiejecie pa-polsku?

— Ani słova.

Biednyja! Praz 45 minutaŭ ciarpliva słuchali lekcyju ŭ niezrazumiełaj movie i nichto nie spyniŭ mianie, nichto nie papiaredziŭ, što maja natuha daremnaja.

Ciapier užo sprava była dla mianie jasnaja. Tut nia moža być hutarki ab litaratury. Navat movu navučyć u praciahu paru tydniaŭ nia zdoleju. Što rabić? Treba stavić acenu. Ja hlanuŭ u žurnał. Maja papiarednica staviła ŭsim piaciorki. Ja ŭvažaŭ, što niemahčyma, kab usia klasa vučyłasia adnolkava. Pavinny być vučni lepšyja i horšyja . Ja staŭlu piaciorki i časam čaćviorki...

Niechta niaśmieła stukaje ŭ dźviery majoj kvatery. Uvachodziać maje dźvie vučanicy z 8-j klasy. Pryhožyja, dvaccacihadovyja dziaŭčyny. Ja ździŭleny hetaj vizytaj:

— Kali łaska... Prašu vas... Siadajcie.

Adna ź ich choča niešta skazać, ale fantana ślozaŭ spyniaje jaje hutarku. Boža moj! Što stałasia? Chto pakryŭdziŭ hetyja miłyja dziaŭčatki? Ale čamu-ž jany da mianie pryjšli šukać spraviadlivaści? Što heta znača?

— Siadajcie, kali łaska... Kažycie-ž, što stałasia... Nia płačcie, spakojna, moža, usio dobra budzie...

— Vy... Vy... usim stavicie piaciorki, a nam čaćviorki pastavili... - Ślozy dušać jaje za horła, ślozy strašnaj bieznadziejnaj rospačy... Ciapier ja nia moh ustrymacca, kab nie zaśmiajacca.

— Ach, usia trahiedyja tolki ŭ hetym!.. Nu, dyk supakojciesia, budziecia mieć piaciorki...

U mianie było paŭbutelki likioru. Znajšlisia i niejkija sałodkaści. Ja im abiacaŭ, što ŭžo nikoli nia budu lichadziejem, jaki stavić dziaŭčatam čaćviorki, prasiŭ ich, kab nia hnievalisia na mianie za maju pamyłku, pravodziačy da dźviarej, całavaŭ ichnija ruki...

Ale ja nia byŭ strohim pedahoham. Ciapier jany, musić, majuć dziaciej, a, moža, navat i ŭnukaŭ. Užo majuć inšyja kłopaty, ź inšaj nahody pralivajuć ślozy. I, musić, daŭno ŭžo zabylisia ab svaich dziavočych ślozach z pryčyny čaćviorki za "viedańnie" polskaj litaratury.

Užo nabližalisia ekzameny. Iznoŭ ja spatkaŭsia z Taraškievičam.

— Nu, jak ža-ž tam?

Ja zrazumieŭ, ab čym jon piačecca.

— Zusim błaha, - adkazvaju. - Navat movy polskaj nia viedajuć.

— Nu dyk što rabić? Jaki vychad?

— Ja baču tolki adzin. Zrabić hetki šachier-machier, kab kožny vučań i vučanica atrymali na ekzamenie piaciorki.

— Možaš hetak zrabić?

— Mahu, kali ty mnie dasi na heta svajo bahasłaŭleńnie.

— Daju.

Usie atrymali piaciorki.

*Hazeta "Biełaruski Holas" (Vilnia) ad 7.1.1944 h. [№ 1 (97)].*

# Kab usie byli adno…

*Praciah. Pačatak na star. 6*

Ale, z druhoha boku, heta była adzinaja forma jednaści, da sionniašniaha dnia realnaja. Usie astatnija dyskusii, jak mahło-b być – heta dyskusii. Ale žyccio nie zaŭždy idzie pavodle navukovych hipotezaŭ ci navat peŭnych dušpastyrskich maraŭ.

Na praciahu 16-17 stahodździaŭ Unijactva pastupova ŭsio bolš papularyzavałasia siarod nasielnictva Rečy Paspalitaj. Na terytoryi sučasnaj Biełarusi kolkaść unijataŭ napiaredadni paŭstańnia Tadevuša Kaściuški siahała 80%. Sytuacyja kardynalna źmianiłasia paśla troch padziełaŭ Rečy Paspalitaj. U vyniku Połackaha saboru 1839 h. Unijactva na biełaruskich ziemlach patrapiła pad zabaronu. Zachavacca Hreka-Katalickaj Carkvie sobiła na Haličynie, što ŭvachodziła ŭ skład Aŭstryjskaj imperyi. U pieršaj pałovie 20 stahodździa pry čynnym udziele mitrapalita Andreja Šaptyckaha, archeolaha Ivana Łuckieviča, litaratarki Ałaizy Paškievič, vykładčyka Balasłava Pačopki dy inš. Unija viartała zabranyja pazycyi. Zrešty, carhovaja sproba kančatkova likvidavać Uniju na Lvoŭskim sabory ŭ 1946 h. pryviała da praciahu žyccia Hreka-Katalickaj Carkvy ŭ padpolli, vychad ź jakoha staŭ mahčymym paśla raspadu SSSR. U vieraśni 1990 h. u Miensku źjaviłasia pieršaja pavajennaja hreka-katalickaja parafija. Pieršym unijackim śviatarom, rukapakładzienym na terytoryi Biełarusi, staŭ u 2007 h. a.Jaŭhien Usošyn. Sioleta ŭ lutym jon pačaŭ pravodzić rehularnyja, raz na miesiac, słuzby ŭ vilenskaj carkvie Śviatoj Trojcy.

— Bolš za dvaccać piać hod tamu my zmahli adnavić dušpastyrskija słužeńni, – skazaŭ archimandryt Siarhiej Hajek. – Treba pamiatać, što taksama i ŭ čas padpolla isnavali peŭnyja supołki, byli miescy, kudy pryjazdžali śviatary z Ukrainy, naprykład, słužyć liturhiju. Užo dvaccać piać hod majem mahčymaść słužyć adkryta. Za hety čas udałosia arhanizavać tryccać parafijaŭ, piatnaccać ź ich maje dziaržaŭnuju rehistracyju, piatnaccać jość u pracesie adnaŭleńnia. Heta čas asensavańnia našaj spadčyny. Kali havaryć pra peŭnuju tradycyju, bazyljanskuju, naprykład, to vialikim bazyljanskim centram u Biełarusi byli Baruny dzieści ŭ kancy 80-ch – napačatku 90-ch, kali tam słužyŭ a.Jan Matusievič, jon achryściŭ niamała biełaruskaj maładoj intelihiencyi.

“Biełarusi patreba nia tolki hramadzkaj unii-jednaści, ale taksama Unii relihijnaj. Mimachodam skažu, nie dakazujučy, što ruch da Unii pavinien začacca ad intelihienckaj moładzi, bo lud “prosty” znaje dźvie tolki viery: polskuju i ruskuju (pravasłaŭnuju). Katalicyzm abradu słavianskaha abo vyjšaŭ užo jamu z pamiaci, abo jon da jaho nie daros. Tak pačatak zhary: kožny kulturny biełarus maje być prychilnikam Unii, jeśli ŭžo prosta nie ŭnijatam,” – hetak pisaŭ katalicki śviatar zachodniaha abradu, uradženiec Astravieččyny, hramadzka-nacyjanalny dziajač mižvajennaha dvaccacihodździa, paet i publicyst Kanstancin Stapovič, taksama viadomy pad pseŭdanimam Kazimir Svajak.

— Moładź prychodzić da nas, – zapeŭniŭ archimandryt Siarhiej Hajek. – Jość achryščanyja ŭ kaściole ryma-katoliki, jakija prychodziać da nas, molacca ŭ nas, my adkrytyja i dla pravasłaŭnych bratoŭ, kali zamaŭlajuć słužbu, malitvu, prymajem usich, tamu što hetaje namahańnie – kab usie byli adno – heta nia tolki niejkaja ideja, ale peŭnaja duchoŭnaja prahrama. Hetyja piatnaccać zarehistravanych parafijaŭ starajucca nieści dušpastyrskija słužeńni nia tolki tam, dzie jość, ale taksama tym bratam i siostram viernikam, jakija žyvuć u dyjaspary ŭnutranaj. Naprykład, na Homielščynie, na Mahiloŭščynie majem adnu parafiju, ale šmat viernikaŭ žyvie prosta ŭ vobłaści, dzie taksama starajemsia słužyć. Ciaham hetych dvaccaci piaci hod byŭ ździejśnieny peŭny duchoŭny podźvih. Štości nam nia ŭdałosia zrabić, ale samaje važnaje – zrazumieć, što žyccio va ŭnijackaj carkvie, heta značyć evanhielizacyja pavodle rodnaj movy, heta i zadańnie, jakoje staić pierad nami.

# Сьвята беларускай песьні-2016

*Заканчэньне. Пачатак на стар. 3*

— Да нас людзі прыходзяць, дзеці бачаць, як мы выступаем, што мы кудысьці езьдзім, вельмі падабаецца ім, і песьні нашыя падабаюцца, таму й прыходзяць у калектыў, хто любіць сьпяваць, хто любіць трошкі рамантыку. Калі мы кудысьці паедзем, яны знаёмяцца зь Беларусьсю, – паведаміла Валянціна Сьнігур.

— Вельмі прыемна, што гэтае сьвята дваццаць гадоў ужо існуе, – паведаміў Сяргей Шабадалаў. – Дзесьці чуеш: у Латвіі праходзіць сьвята, праходзіць тры-чатыры гады, зьмяніўся кіраўнік – і сьвята зьнікла. А тут, нягледзячы на тое, што ў Згуртаваньня ўжо трэці прэзыдэнт, сьвята жыве й разьвіваецца, і будзе працягвацца, нягледзячы на тое, што мяняюцца кіраўнікі. Значыць, гэта сьвята, якое патрэбна людзям.

—Тут, у гэтым горадзе я адчуваю такую шчырасьць, што хацеў кінуць гэты шумны горад Менск і застацца тут жыць, – падзяліўся саліст Беларускага дзяржаўнага ансамбля “Сьвята” Вячаслаў Статкевіч. – Тут такая атмасфэра цудоўная! Я скажу шчыра: закранула мелодыя беларускай песьні, што захавалася праз стагодзьдзі. Я гляджу, людзі так чакалі гэтай сустрэчы! Многія прыехалі з розных рэгіёнаў. Я ніколі ня думаў, што Мікола Логвін з Клайпеды – зь Ліды. У мяне там пахаваныя бацькі, я туды прыязджаў у гэтым годзе, стаяў на гэтых магілках, я адшукаў па магілках сваякоў да сёмага калена… Я ня ведаў, што ў мяне там ёсьць карані, хто я, што я… Я па гэтых магілках столькі шукаў потым па інтэрнэце радні – вы ня можаце ўявіць! Пакуль жывы, ты павінен існаваць: калі душа сьпявае, сьпявай заўсёды, таму што песьня, беларускае слова заўсёды дапамагае, як малітва. Але беларусы крышачку неарганізаваныя! Чаму? Я ня ведаю. Звычка куркульская, хутарская: прывыклі сам для сябе. Трэба прыходзіць, яднацца, размаўляць, сьпяваць: напячыце дранікаў, прывязіце, што ў вас на сэрцы ёсьць, вось і будзе ў вас сапраўднае сьвята. І я хацеў-бы, каб дваццаць першы фэстываль беларускай песьні быў, і каб гэта быў узровень фэстывальны, калі прыязджаюць розныя краіны і займаюць месцы. Зрабіце Фэст беларускай песьні і намінацыі, напрыклад, “Дзіцячая песьня”. Павінны песьні быць і на польскай, і на літоўскай, і на рускай мовах. Гэта будзе цікава ўсім людзям.

**РУНЬ** Беларуская газэта ў Вільні

Baltarusių laikraštis Vilniuje

Выдаецца з 1997 году
Выходзіць нерэгулярна
Друкуецца кірыліцаю (клясычным правапісам) і лацінкаю
Выдавец: Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў “Дэмакратыя для Беларусі”
Адрас рэдакцыі:
LT-10323 Vilnius-55, Smelio 23-26
Тэлефоны: **+ 370 5 261 62 24, + 370 604 625 91**
e-mail: **hazetarun@gmail.com**
**Сяржук Гаўрыленка** – рэдактар
**Алег Мінкін** – літаратурны рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
Наклад **500**

Адрас для допісаў:
**“Рунь”, LT-10323 Vilnius-55, Smelio 23-26, Lietuva – Lithuania**

НІЗКІ ПАКЛОН
ЗА АХВЯРАВАНЬНІ
Вікторыі Мурашкене, Кастусю Вераб'ю, Валянціну Стэху, Кацярыне Вініцкай і інш.

Нумар надрукаваны пры падтрымцы Дэпартамэнту нацыянальных меншыняў пры Ўрадзе Літоўскай Рэспублікі.

Šio laikraščio leidimą iš dalies finansuoja Tautinių mažumų departamentas prie Lietuvos Respublikos Vyriausybės.